Ф. Шантыр.

# Патрэбнасць нацыанальнаго жыцьця для беларусау і Самаадзначэньня народу.

СЛУЦК
ДРУКАРНЯ З. БАРКАКА
1918 года.

# Патрэбнасць нацыанальнага жыцьця для беларусау і Самаадзначэньня народу.

## I

Як ня горка і ня смешна, калі мы пачынаемо гаварыць аб адражэньні Беларускага народу, аб патрэбе для яго нацыанальнаго і палітычнаго жыцьця, нам задаюць пытаньня, чы мы, Беларусы, у сыпраудзі ест жывы народ, чы ня маемо мы замеру стварыць нейкую штучную нацыю і штучная палітычная уладарства? Хоць кожны добра ведая, што нацыя — гэта ня прадукт творчасці чалавечай, а прадукт творчасці прыроды, што штучнай ані мовы, ані псыхофізычны тып чалавека ніхто ня можа стварыць і, што нармальная палітычная уладарства можа быць толькі там, гдзе ест аднародная маса па свайму бытоваму, культурнаму і грамадзянскаму укладу,—аля відаць наша, беларусау, доля такая, што калі гутарка ідзе аб тым чы мае права беларус жыць, то усе законы ідуць „шыварат-навыварат".

У кароткіх рысах прагледзьмо той грунт шляха, па катораму ідзе адражэньня і самаадзначэньня беларускага народу і можэ, ня толька дадзімо адказ „прыяцелям" і ворагам нашым што бяз упынку твярдзяць нам „мэмэнто моры", аля хоц крышку кінемо свету і тым нашым братам, што ящэ дасюль бродзяць у цемры нясвядомасці і цямнатою сваею памагаюць злудням і дэгенэратам капаць магілу Бацькаущыне...

Найперш разгледзьмо тыя асновы, каторыя ствердзяць нам, што беларускі народ—гэта, як нацыя, жывы індывідуальны тып, ані штось выдуманая.

## II.

Ітак, кожын народ кіруючыся к палітычнаму самаадзначэньню мая свае імя свае гістарычна-палітычная

прошлая, сваю мову, абычай і убольшай часці пануючую веру; усе гэтыя кардынальныя стораны быту мае і беларускі народ.

Разгледзмо іх папарадку.

III

Мінаючы наша уласная імя „Беларусы", аб уласнасці нашай катораго німа ніякай спрэчкі і, каторая мы спатыкаемо у пісьменах гісторыі ужэ у XII і XIII веках, -- мы перэйдземо адразу к прагляду нашаго гісторычна-палітычнаго прошлаго.

Хоць нацыанальнае жыцьце часамі ідзде нязалежна ад жыцьця палітычнаго, аля падобная з'явіска зусім нянармальная,— аб шкоднасці яго мы скажэмо ніжэй,—усеж у першапачатку свайго быту кожны, народ меу сваю палітычную самавладнасць, што і было важнымі, фундамэнтальнымі варункамі нацыанальнаго, т. е. культурна-паступоваго развіцьця данаго народу.

Гісторычна-палітычная прошлая беларускаго народу настолькі багата, што памры беларускі народ цяперь як нацыя, па ем бы астауся такі вялізарны памятнік, цень которого ящэ многа вякоу гаварылаб аб сабе. Цяпер жэ, калі мы пачалі прабуджацца, памятнік прошлаго будзя для нас нашым лепшым светкам на права народу на самаадзначэньня.

Колькі слоу аб гэтым прошлым.

У глыбі вякоу, у нязапомныя часы нашы пращуры пасяліліся на сумнуй роднуй нашуй зямлі, гдзе жывем цяпер мы, 10-цімільенны беларускі народ. Прышлі яны на гэту зямлю з над Дунаю асобным племенем, раней за другія славянскія племены, у які час, гісторыя пакуль што ня устанавіла. На зарыж палітычнаго быту, т. е. у той час калі людзкая памяць магла быць пасведчана пісьменамі гісторыкау, мы спатыкаемо наш народ на досць паднятуй мэце грамадзянскаго і эканамічнаго развіцьця, у зраунаньню з акружаушымі яго народамі.

Народ наш у гэты час пачці увесь называуся адным імяням Крывіцкаго; пазней у яго улілося племя славянская дрэговіцкая, што жыло ад яго на захада-поудзень. Палітычным цэнтрам Крывіцкаго племені быу Полацк

Гэта была мэтраполія усей тагочаснай зямлі беларускай. А земля беларуская спатыкая гісторыю разлажыушыся: з Поудня на Поунач—ад ракі Прыпяці да Балтыцкаго мора і з Усходу на Захад—ад Дняпра да вярхоу'я Заходняго Буга і да канца Неману. Усю гэту абшырную тэрыторыю занімау ня адзін толькі наш народ: у адном мейсцы ен суседзіуся з другімі пляменамі, а у другом—уходзіу у сярэдзіну іх як калянізатор і адбудоуваў цэнтры гандлеваго жыцьця, т. е. гарады. Наш народ у дагістарычныя часы і у пачатку гісторыі у большай частца сутыкауся у жыцьці з дзікімі ня славянскаго выхаду пляменамі, як то: Ятвяжскімі, Літоускімі, Латышскімі і другімі. З аднымі з іх (Ятвяжскімі) ен веу бязупынную барацьбу, а з другімі (Літоускімі)—радніуся, уплывау на іх сілай сваей тагочаснай цывілізацыі і рабіу іх щырымі абароньцамі свайго краю і раунапраунымі грамадзянамі сваіх вечау.

Пакуль уся кірауніцкая сіла палітычнаго жыцьця выходзіла з аднаго цэнтру Полацка і пакуль ступень развіцьця другіх народау стаяу ніжэй ад Крывіцкаго, тэрыторыя Беларускаго уладарства шырылася і багацела. З ростам жэ тагочаснай цывілізацыі у суседніх народау, знаходзіушыхся пад палітычным і эканамічным уладарствам беларусау (крывічан), а такжэ з ростам другіх гандлевых і палітычных цэнтрау на акраінах беларускай тэрыторыі, гэтыя акраіны адрываліся ад цэнтру, сваей мэтраполіі, станавіліся самавладнымі і нязалежнымі. І чым больш яны станавіліся нязалежнымі ад мэтраполіі, тым больш іх эканамічныя інтэрэсы ішлі у спрэчкі з цэнтрам і тым больш нарастала барацьба акраін і цэнтру, каторы ніяк ня мог забыць аб тым багацьці, якое яму давалі акраіны. Гэтая змаганьня і барацьба памагалі пераходу палітычнай уласці ад вечау к князям, каторыя да эканамічнай барацьбы самастыйных частак Беларускай зямлі далучалі ящэ і свае дынастычныя інтэрэсы.

Гістарычны фактар—умацаваньне княжай уласці над народам, згубіу беларускі народ. Аслабляная барацьбою асобных сваіх княжацтв, беларуская зямля

усе больш і больш слабела эканамічна, а з гэтым і палітычна. Эканамічная барацьба акраін і цэнтру уступіла мейсца дынастычнуй барацьбе князеу. Дамовыя сваркі князеу, канчаушыяся у большай частца самамардаваньнямі і пагромамі адным княжацтвам другога. давялі худка Беларускую зямлю да упадку. Руйнаваная мяждаусобіцамі дзесяткамі сваіх уладароу, Беларуская зямля зусім аслабеушая, ня магла бараніцца ад нападу другіх народау. Першыя вякі гісторыі нам прыносяць крывавыя змаганьня беларусау з немцамі каторыя усе боль і больш загарталі пад сваю уласць Прусы і Летголы і адцісьнялі беларусау ад Балтыцкаго мора. Ледзь кончылася гэта барацьба, як узгарэлася барацьба з поудневымі славянскімі плямenамі, каторыя вялі так-жэ заборчую вайну. Вайна з гэтымі апошнімі цягнецца на працягу колькі вякоу. Аля вось, канец гэтуй крывавуй барацьбе палажыу новы гістарычны фактар.

У той час, як беларусы нязмерна разшырылі сваю зямлю і падзяліушыся на малыя асобныя княжацтва пашлі на убыль, у гэты час узрос побач і у нашуй зямлі да тагочаснай цывілізацыі Літоускі народ.

Падвіжныя, успрымчыя, энэргічныя літвіны, вызванныя нашым народам,—каторы у нязапомныя часы калянізатарскім варункамі змяшауся з імі і аснавау у іх зямлі усе пункты гарадзкого жыцьця,—да жыцьця палітычнаго із лясоу, гдзе яны вялі поугаспадарчы — поукачавы образ жыцьця, скора зраунаваліся з сваімі ручыцелямі і карыстаючы з іх упадку і безладзьья, пачалі іх загортваць пад сваю уласць.

Жывучы разам у мешаніне з нашым народам, літоуцы пераймалі ад яго мову, абычай, парадак самаўладцтва і калі Полацкая зямля стаяла на упадку, гэта ня была у цэлым уся Полоцкая зямля, бо тая яе частка, гдзе квывічы былі змешаны з Літвою расла і умацнялася, хоць гэта усе рабілася пад імянем Літвы. Літва, чы праудзівей супольна Беларуска-Літоуская княжацтва, хутка стала загортваць пад сваю уладнасць быушую сваю мэтраполію Полацк і выдзяліушыяся з

з яго княжацтва. У гэтым яно ня знаходзіла нават сабе апоры, бо народ, каторы гібеу і руйнавауся ад частых свад сваіх князеу, рад быу адпачыць і пажыць спакойна пад уладнасцью сільнаго апекуна. Ды і у скутку гэта ня было праудзівая заваеваньне адным народам другога, а скарэй была перамена дынастый князеу адной на другую. Уліушы у сябе грамадную моц крывіцкаго народу, тады як і так яно было на палавіну разбаулена, а мо і болей, Крывіцкім народам, Літоуская княжацтва стала зусім крывіцкім, чылі Беларускім.

Ад гэтых часоу пачынаецца гісторыя супольнаго жыцьця Беларуска-Літоускаго народу ня толькі у прываце, як было да сюль, аля у гісторыі і палітыца. Літоускі народ, спакойны, закаханы у сваей пушчы, усе больш і больш падпадау уплыву сваіх сяброу крывічоу, палюбіу іх і жыу з імі у вялікуй згодзе праз увесь час гісторыі. Ды і ня дзіу, што пры большасці беларускаго народу, пры яго вызшуй цывілізацыі і перавазе, у Беларуска-Літоускум княжацтве мова, уладарства і уся афіцыальная старана жыцьця былі беларускія. Эта быу адзін з лепшых перыадау развіцьця беларускай культуры. Беларуская літэратура, стаяушая у той час на вызшуй ступяні развіцьця чым другія, была пярадавым кірауніком; беларуская юрысдыкцыя магла па прастаце сваіх знамянітых статутау і іх паунаце і усестаронней глубіне ахоплянного быту іці у спрэчкі са знамянітай у той час рымскай юрысдыкцыей. Прасвета также пачынала быць даступнай ня толькі для „прывілегірованных".

Так жылося да часоу саедзіненьня Беларуска— Літоускаго княжацтва з Польшаю. Саедзіненьня гэта ня было у праудзівым змысле саедзіненьнем народау, а толькі каралеу, па заволяй і згодай народау, чаму яно і ня дало карысці, як яно дало карысць беларуска-літоускаму народам ад іх супольнаго саедзіненьня, бяз чужой для народу палітыкі алігархіі.

Гэты гістарычны акт стау для Беларуска-Літоускаго народу ракавым і, як убачым далей, гаротныя

масы гэтых народау укінуу на сотні год у ноч жыцьця нацыанальнай нясвядомасці.

Пасля саедзіненьня Беларуска-Літоускаго князя с Польскай каралевай, урад польскі адразу пачау сваю палітыку над палянізацыей Беларуска-Літоускаго народу. Пуцінай подкупау, наданьям прывілеяу вызшай клясе, калянізацыі, насаджэньня іезуітцтва і у рэшці прымусау, польская палітыка дабілася таго, што праз сотню з чымсь гадоу увесь вызшы слой, чылі арыстократыя, атдзяліуся ад свайго грунту нізшых кляс, званых у той час чорным і паспольствам і, перэняушы польскую мову і культуру, залічыу сябе да польскай нацыанальнасці.

Ня малую у гэткім перэвароце зрабіу падмогу і тагочасны алігархічны польскі урад, каторы надта да смаку прышоуся нашым магнатам.

У той час, як вызщыя нашыя грамадзанскія клясы атдзеліліся ад народу і прылучыушыся да польскай алігархіі пашлі той дарогаю, каторай шла гэтая апошняя, працоуны наш народ, ня стаяушы тады пры палітычным жыцьці, страціушы сваіх культурна—нацы—анальных важакоу, часцю пашоу за нявучаным нізшым духавенствам, каторая стала на абароне беларускай народнасці, а часцю стау простым глядзачом свайго палітычнаго бяздарож'я і нацыанальнаго сіроцтвэ. На агул же, увесь гаротны народ замкнууся у сабе, у сваім нацыанальным „я"; ен як бы замер у той ступені развіцьця, у якой яго гісторыя застала на бяздарожу і такім ен астауся на сотні год, да нашых дзен...

Гісторыя шла уперад, палітычныя формы нашаго жыцьця меняліся, а народ наш усе ня паказвауся з сваей унутрэнай замкнутасці і так жыу, пакуль гэткая замкнутасць ня перэшла у цяжкі, доугі гістарычны сон нацыанальнай нясвядомасці.

Шлі годы, дзесяткі, сотні год гэткаго яго сну нясвядомасці, перэплецянаго чорным здзекам над ім, крывавай барацьбой за яго нацыанальную душу, за яго народнасць, а ен усе спау, бо быу адзінокі, і ня меу кіраунікоу і абароньцау свайго духоуна-нацыанальнаго быту, каторыя прабудзілі-б яго са сна

нясвядомасці і увялі у паньства свету і пашаны свайго прыроднаго чалавечаго імяні. Сам жэ ен стаяу сіратою і яго уласныя сілы ня дараслі да моцы прабуджэньня сябе. Аля усеж гета быу духоуна-нацыанальны сон народнай нясвядомасці, а ня яго смерць. Жывы народ ня мог памерці у сваім індывідуальным нацыанальным „я“, бо гэта „я“ было яго жывяловым інстынктам, каторы сам сабою выцякау ужэ з самаго факту быту народа.

Ня у меньшым сне, чы скарэй аблудзе, знаходзіліся і ішлі праз усе гістарычная прошлая нашы высшыя клясы грамадзянства. Адрокшыся ад сваей народнасці і прыняушы польскую мову і паверхоуны лоск польской культуры, яны праз увесь час чулі сябе чужымі польскай народнасці, бо у іх гаварыу уласны нацыанальны інстынкт, каторы ніякімі прывілеямі ня можна заглушыць. Залічаючы сябе да палякау, усеж яны добра ведалі, што праудзівымі палякамі яны ня могуць быць, дзеля гэтаго называлі сябе, у адмєшку ад першых, літоускімі палякамі, каторых гісторыя ніколі ня мела і каторых яны стварылі самі з сябе. Будучы сляпымі на факты гісторыі, на акружаючая іх жыцьце таго народу, которы карміу іх хлебам і давау ім усе, яны стварылі нейкая поупольская паньства у панстве Беларускім і слепа фанатычна яго падтрымовалі, высмейваючы родную мову, ваюючы з роднай народнасцію.

Дзіуным і няпанятным казауся наш край пры гэткуй рожнасці аднаго і також народу. Вось у якіх фарбах рысуецца абраз грамадзянскаго станавіша усяго нашаго народу: тады як гаротны народ замкнуушысы у сабе снуу нясвядома ніць свайго нацыанальнаго быту, кляс вызшы акутваеца польшаманіею, которая яны у часці заразілі і сярэдні кляс, так званую фальварковую і засцянковую шляхту, тую самую шляхту, што праз усю гісторыю цягнулася за велікапанскімі хвастамі, стаяла за высокамагнацкімі крэсламі і па наказу гэтых жэ магнатау, вархоліла на сэйміках, ня разумеючы часта хто яна і зашто вархоліць.

Характэрным у гісторыі палянізацыі нашаго краю ест тоя, што нашы вызшыя грамадзянскія клясы, лічачы наш край Польшай, польскую мову і культуру пакалькі яна магла наружна прывіцца да іх, прыма-

юць толькі для сябе, як і тыя прывілеі, што надавау ім польскі урад, і залічваючы гэту мову да „паньскай", коса глядзяць на дробную шляхту, калі гэта заблудзіушая авечка часамі хоць у „свята" і „пра гасцей" пратандуя на польскую мову, як на прыкмету належнасці сябе да „дэлікатнай", „паньскай" клясы.

Так шло да часу падзелу Польшы, калі наш край папау пад уласць Расейскаго ураду.

Расейскі урад доугі час па забраньню нашаго краю лічыу нас палякамі. Гэта тлумачыцца слабым развіцьецем этнаграфічна-філалогічнай навукі у Расеі у той час з адной стараны і племенною рожнасцью нашаго народу у зраунаньню з вялікароскім—з другой. У першых дзесятках гадоу нашаго забору Расейскі урад ня толькі ня адлічвау нас ад палякау аля нават памагау польскім і апалячаным беларускім групам правадзіць у жыцьце іх палянізатарскую працу. Палянізацыя краю Беларускаго у гэты час дашла да вызшаго прадзелу. Ніколі у перад так ня панавала на Беларусі польска—іезуіцкая прасвета, як у час 10—40 годы. Гэта найлепей сведчыць, што палітыка Расейская ніколі ня кіравалася пры заборы нашаго краю жаданьням „освободіть угнетенных братьев от польскаго іга", як то тлумачылі расейскія гісторыкі, а толькі імпэралістычнымі мэтамі.

Гэтак дзеялася да часоу польскаго паустаньня у нашым краю 63 году, калі наша селянства ня толькі ня пашло за паустаушымі „панамі", аля нават адняслося к паустаньню з няпрыхільнасцю.

Пасля гэтаго Расейскі урад сцямянууся, што наш цемны народ можа служыць для яго добрым матар'ялам у русыфікацыі і засілі як нашаго краю, каторы ен усе яще лічыу польскім, так і прытыкаючай да яго супраудзівай Польшы.

Ад гэтых часоу пачынаецца у нашым краю паліцэйска—русыфікатарская праца Расейскаго ураду. Была паслані у наш край цэлая армія уселякіх чыноунікау, каторыя з помач'ю казацкіх нагаек мелі наш край „ісконі рускі". як яны называлі, усеж чамусь перэрабляць на „рускі". Беларускі народ, як гаворыцца, папау із агня ды у полыма. Усе свае родная была задушана, забіта. Палякі называлі нашу мову „простаю", расейцы-жназвалі яе „іскуственной смесью

польскай і русской рѣчи“, забыушы тоя, што наша мова пры Іване Грозным дала ім першая пісменства і праблескі прасветы. Наша родная мова і народнасць былі для ужытку забароняны; уселякі наш друк душыуся. Аля што найгорш, началася русыфікацыя нашых дзецей: быу сазданы па вядомых сымінарыях асобы тып чыноуніцтва прасвятоваго, каторы стау самым верным вартауніком русыфікатарскай працы у нашым краю. Адзін із слупоу, на которых трымауся Расейскі царызм—„раздзеляй і властвуй“, на Беларусі звіу сабе самая моцная гняздо: ен дзяцей адной маткі Беларусі падзеліу на два варагіх сабе станы і казау праваслауным называцца—расейцамі, а каталікам—палякамі, натрауліваючы і уцковаючы адных на другіх.

Якая была праца на Беларусі русыфікатарская верных халапоу і прыслужнікау маскоуска-татарскіх тыраноу у кароне Расейскіх цароу усе добра помняць, бо сляды яе ящэ надта свежы. Аля сухая црыгонная праца над нашым народам чыноунікоу і паліцэйскіх нічого ня ускурала—жывы народ беларускі астауся тым, кім ен быу многа сотак вякоу таму назад.

Такім тэмпам жыцьце нашаго краю шло да пачатку XX сталецьця, калі наляцеушая агульная навальніца рэвалюцыйнаго руху у Расеі зкрушыла і знясла много старых згнілых запорау і хваляй прабуджэньня праняслася і па нашым краю

Народ наш, будучы доугі час у паусне нацыанальнай нясвядомасці, ня адказвауся ад свайго уласнаго імяні, свайго духоунаго быту, хоць канкрэтна ня праяуляу усяго гэтаго, жывучы ім унутрэнна у сваім шэрым буднічым жыцьці, касца, абычаю, мове. Тоя, што беларускі народ добра разумеу сваю нацыанальную асобнасць і інстынктам атдзельвау сябе ад другіх народау, хоць ен быу і нясвядомы свайго нацыанальнаго імяні, нас пераконвая яго цвердая пастаянная трымалосць „свайго“. Каліб маглі запытаць беларуса пад канец забору Расеяй Польшы хто ен, то пачуліб цверды яго атказ, што ен „тутэйшы“; гэткі адказ можна толькі пачуць яд яго і цяпер. „Тутэйшы“, гэта значыць што ен ня паляк, ня расеяц, ня украінец, а сын сваіх родных палеу, лясоу,

весак, мястэчак, сын таго народу, каторы гаврыць „простай“, „тутэйшай“ мовай, сын усяго таго, што дало грунт яго псыхічнаму разумаваньню, на катором яно узрасло.

Жывучы унутрэнна сваім нацыанальным жыцьцем, забыушы пад дауленьням гістарычных фактарау свае нацыанальная імя, беларускі народ у цэлым ня перэстау быць самім сабою, народам з сваім гістарычным прошлым, з сваім уласным імяням.

## IV.

Беларуская мова. Зразумелая, ясная, поуная пекнаты і хараства родная мова. А сколька пагарды і плеукоу яна на сабе вынясла ня толькі ад чужынцау аля нават і ад тых здрайцау і дэгенэратау беларускаго народу, каторых маткі саміх выгадавалі у гэтуй мові. І якіх толькі нападкау, якіх толькі плетак яна на сабе ня вынясла. Як ей толькі ня капалі і палянізатары і русыфікатары магілу, а яна усе жывая, усе па даунейшаму злучвая дзесяцімільенны беларускі народ.

Аля разгледзмо гэтыя нападкі і дадзімо атказ.

Найперш адмецім той важны штрых, што з усіх нападаючых на нашу мову асоб, ніводная ня адважылася сказаць што беларускаго народу, як асобнаго славянскаго племені німа: альбо прызнаючы беларускі народ, альбо абходзячы гэта пытаньне моуча, яны адкідаюць ад беларускаго народу яго мову. Такое палажэньня само па сабе ужэ спрэчная, бо кожны ведая, што кожная племя, як асобны індывід, заусюды мая сваю уласную псыхафізычную структуру, каторая складаецца са састауных частак, у тым разі і з мовы. Мова ня ест штучным дадаткам чалавечай натуры, а тым фактарам, што бярэ свой пачаток із тых асноу чалавечаго быту, якія ускармілі яго дух і цела, прасцей кажучы—з самой прыроды.

Нам закідваюць, што мова наша ня есть асобнай ад другіх, а нарэча аднаго ітагож народу расейскаго, з дадаткам польскіх, слоу,—калі гэта кажэ расеяц, чы праудзівей сябер чы вораг са стану маскоускай арыентацыі,—і „стала польска мова, пжез часа гісто-

рыі зэпсута домешкем москевскіх слув“,— калі тояж цвярдзіць асоба залічваючая сябе да лагеру палякау.

Ест ящэ пагляд, што наша мова выфармавалася з моу украінскай, польскай і расейскай дзякуючы стыку гэтых трох народау на нашуй тэрыторыі.

І на астатак ня прызнаюць нашай мовы дзеля таго, што у ей да сюль ня выдана паважных літэратурных творау, іначай кажучы дзеля таго, што як-бы яна бедная духоуна.

Ось тыя довады, якія нам цвярдзяць праціунікі беларускае мовы. Пад кірункам гэтых блудных поглядау часта знаходзіліся шчырыя патрыоты нашай старонкі, ня могшыя вясці барацьбы проціу праця глаго вякавога паходу на беларускую мову, як напрыклад Сыракомля, пачаушы пісаць па беларуску.

Праціунасць, памыльнасць і спрэчнасць гэтых блудных поглядау больш як вачэвідная. У перш кідаецца у вочы, што два праціvастауныя народы па мове і культуры, як польскі і вялікароскі залічваюць нас кожны да свае нацыі і аснову нашай мовы выводзяць з сваей' Прауда, щыра вучоны вялікарос, чы паляк гэтаго ня скажэ, аля гэта ня мяшае ворагам муціць воду сярод мала свядомае масы.

Паказаная спрэчнасць тлумачыць нам, што корань нашай мовы ня вялікарускі і ня польскі а самааснауны, бо у глыбі гісторыі наша мова спатыкаецца ужэ тады у пісменнасці, як польская, а найбольш вялікаруская пісменнасць пачыналі толькі жыць. Што наша мова, як славянская, мае сходнасць з другімі мовамі нацый славянскаго выхаду, то з гэтаго ящэ ня трэба рабіць выvаду, што яна узята ад польскай чы вялікарускай, бо тады гэтак сама можна былоб цвярдзіць аб усіх славянскіх мовах, што кожная з іх уфармавалася з другой, а ня развівалася асобна, на падставе законау быту нацыі.

Ня мая ніякаго перэканаучаго змыслу і пагляд, што наша мова зфармавалася з польскай, вялікароскай і украінскай.

Штоб якая небудзь мова мела сфармавацца з другіх моу, чаго трэба сказаць ніколі у гісторыі ня было, яна ня павінна мець у сабе самой ніякай

асновы, т. е. мовы, каторай бы даны народ карыстау у пачатку, як нязалежнай ад тых моу, з каторых пад дауленьням гістарычных фактарау мелабы сфармавацца штучная мова. З нашай мовай у яе гісторыі зусім ня так. Дауленьня гістарычных фактарау, як то палянізацыя і русыфікацыя у палітычна-грамадзянскім жыцьці прышло да нас тады, калі мы ужо мелі ня толькі развітую уласную мову, аля уласную культуру і цывілізацыю, стаяушых у той час выжэй ад суседніх народау...

Перэконзаць у тым, што наша мова мая сваю нацыанальную і самабытную індывідуальнасць арганічна злучаную з бытам нашаго народу, гэта значыць ламацца у адкрытыя дзверы, і толькі дзякуючы страшэннаму нашаму бяздолью, гэта рабіць прыходзіцца.

Ящэ пытаньня: чаму наша мова ня багата літэратураю і духоуным зместам. Адказ на гэта просты: кожная мова расце духоуна пастолькі, пакольки ідзе у перад духоуны поступ данае нацыі. Кожная мова цесна, арганічна злучана з эвалюцыей прыроднай творчасці народу і у гэтым яна заусюды раздзеляя долю гэтаго народу. Звертаючыся да беларускай мовы, мы бачым, што яна падзеляя у ваусем долю беларускаго народу. Беларуская мова захавалася у масах гарогнаго народу у той эры развіцьця, у каторуй гэты народ сотні год таму назад астанавіуся у сваім духоуным поступе, будучы здражаным сваею інтэлігэнцыей. Ад таго часу народ духоуна ня развіваўся, ня рос, ня магла развівацца, расці і мова. Народ беларускі, як цэльная нацыя, ня змяніушы аснауных законау свайго быту ня мог памерці, ня магла змяніцца у другую і памерці яго і мова. Яна раздзеляя долю беларускаго народу да часу уваскрашэньня яго, калі і яна прыбраная у светлую апратку займе пачотная мейсца у сям'і славянскіх моу. У аснове сваей наша мова мая столькі чароунай прастаты і хараства, што ня пройдзе і колькі дзесяткау год, як яна ня толькі зраунуецца з другімі цывілізованымі мовамі, аля пакажа і тую містычную глыбь беларускаго народу, якая да сюль ня зразумела у Міцкевічу і Дастаеускім.

Заканчваючы мусім дабавіць, што мова-гэта той цэмэнт, каторы спайвая народ і дае яму моц быту, і што бяздольля беларуса у ва многум залежала ад асірацелай іх мовы.

## V.

Кіньмо ящэ беглы узгляд на адну нацынальную асобнасць беларуса, гэта яго абычай, як праяву духоунай творчасці.

Абычай беларуса ва многум рожніцца ад абычаю народау сумежных нацый. Заховаючы у глыбі сябе поуны паэзы містытызм, каторы ест няадлучнай патрэбай быту беларуса, патрэбай рэалізаваньня абстрактных праяваў прыроды у звязі з уласным пачуцьцем і псыхікаю, у наружы—повян прастаты і наіунасці і бадай зразумелы толькі для таго, хто добра ведая душу беларуса. Толькі у абычаі беларуса так ярка-індывідуальна выліваецца вечная шуканьня кону, як няспазнанай. няадгаданай сілы быту. Прадвечнасць таемнаго і прастата будзенщыны, два рожныя шляхі, у абычаі беларуса сходзяцца у адзін, каторы яго вядзя то на магілкі з глыбокім сумам спрауляць дзяды, то на вясельяу смеху снуць радасць быту.

Абычай беларуса-гэта культ яго нацыанальнай душы вязанка яго чыстай народнай паэзыі, вечны пацяг, у щэрых будняг гаротнаго жыцьця, у край ня адкрытаго... Гэта ня адно спадак па яго пращурах: гета канкрэтны выплыу з быту беларуса; ен вытвараецца і расце з творчасцю і ростам душы беларуса, аля у аснове свaей ен ня зменны-гэта усеж тоя містычная служэньня кону,

Абычай беларуса, як духоуная творчасць яго, у большай частца выліваецца у касца і песні, як патрэбе маралі і хараства. Каска і песня беларуса-гэта крытэрыум яго духоунаго быту, гэта яго псыхічна пачуцьцевы воблік. Гаворачы а касца і песні беларуса, мы ня памылімся калі скажэм, што гэта ест шлях гістарычных перажываньяу беларускай нацыі, што гэта ест няпісаная гісторыя беларускаго народу.

Ня маючы адгалоску свайго жыцьця у творчасці, прыбранаго у літэратурныя формы, зверху ад свае інтэлігэнцыі, народ стварыу гэта сабе сам бяручы матэр-

ял з цаліны свайго быту: творчы, ен дау такую щырую і праудападобную да атбігкау свайго жыцьця творчасць, што разглядаючы каску і песню беларуса захватвая падзіу, як народ неук, народ сірата забыты у паньстве свету і культуры, мог так праудзіва заглубіцца у кожну рысу свайго духоунаго зместу. І. каліб мы маглі сабраць усю тую мараль, якая разсеяна па казкам беларуса, усе тоя пачуцьце, каторым перэпоуняна яго песня,—то перад намі вырысавауся-б аблік чалавека з аграмадным багацьцем здароваго змыслу і глубіною найхарашэйшаго пачуцьця, аля і столькіж бяздольны і столькіж гаротны.

Абычай беларуса, выліваючыся у духоунай творчасці яго, лепш як што рысуець рэльефна самабытнасць і індывідуальнасць народу.

## VI

У кароткіх і агуловых рысах мы праглядзелі найважнейшыя з кардынальных асобнасцей беларускай нацыі, каторыя даюць ей права іці у гісторыі уласным шляхам, ня будучы нічыім прыслугачом. Гаварыць аб тым, што беларуская нацыя—гэта жывая нацыя маючая свае гістарычна—уласная імя, гэта сярод бела дня засвечваць каганец: а усеж у нашым страшным бяздолы і гэта рабіц прыходзіцца, бо, к вялікуй крыудзе здароваго змыслу, ест ящэ такія людзі і, што найбольш баліць, ня сярод варагоу, а сярод сваіх сяброу і братоу, каторыя усе ящэ бачаць нас адарваным кавалкам, зблудзіушым тулачом.

Прагаварыць да чуцьця і розуму гэтакіх людзей, а такжэ да тых братоу, што атрымаушы свет навукі спяць у лені альбо блудзяць у паньстве хімэрычных ідэй—ось мэта маей працы.

Калі хоць аднаго з іх мне удасца прабудзіць да вялікаго гарачаго каханьня к забытаму абяздолянаму краю, пазваць да працы щырай на нацыянальнуй ральлі дзеля свету, дзеля лепшай будучыны гаротных братоу,—я буду щаслівы з зроблянаго

## VII.

Цяпер мы разгледзмо пытаньне аб тым, што мы разумеям пад нацыяй і пад той злучнасцю, каторая ест фундамантам істнаваньня кожнай нацыі.

Нацыя—гэта сбор (сынтэз) праяу быту групы аднародных асоб, творучы з сябе так званую душу народа, которая у цэлым ест самабытная жывела, маючая свае нязменныя законы быту аснованныя на цвердуй падставе натуры. Законы гэтыя—мова, абычай, а адчасці гістарычная прошлая і вера данаго народу; натура—краябраз, клімат і у некаторуй часці дауленьня суседніх народау. Першая выцякая з другога і тварыць цэльнасць быту народу ня залежна ад яго волі Гэта цэльнасць быту і ест вядомым нацыянальным інстынктам, каторы кіруя жыцьцём нацыі.

Інстынкт нацыональны, гэта той магучы звязак нацыі, што застауляя кожнаго чалавека з няуясненай сілай цягнуцца да „свайго“. да таго „свайго“, з каторым ен звязаны нявідомымі ніцямі нацыянальнаго інстынкту.

Няма на свеце ня воднаго, нармальнаго у праяве быту, чалавека, каторыб будзь то свядома, чы ня свядома ня меу бы у сабе нацыанальнаго інстынкту, у глыбі сябе скрытаго пацягу да усяго уласнаго, на канве катораго узорам снуецца яго духоуна-целесны быт, пад навалай катораго узрос яго чалавечы воблік.

У людзей мала свядомых нацыанальны інстынкт, чылі пацяг да свайго уласнаго, роднаго, выліваецца у ня залежном ад волі групавані там, гдзе есть гэта „свае“, „родная“, прасцей кажучы, нейкая сіла унутрэнная (нацыанальны інстынкт) связвая яго з усім тым, гдзе ен радзіуся, узрос, гдзе жывуць яму падобныя па духу і целе, мову каторых ен добра разумея, каторае научыла яго маці; гдзе ен чуя, што усе яго добра адчувая ня толькі словамі аля нават самой спольнасцю быту, гдзе да кожнаго акружаючаго яго абраза ідуць з яго сэрца і душы нявідомыя ніці і спайваюць яго з імі мацней жалезных ланцугоу. Для людзей жэ свядомых, нацыанальны інстынкт выражаецца у азмыслянным безпрадзельнум каханьні гэтаго „свайго“; у патрэбя, выцякаючай з чуцьця і разумаваньня, працы для щасця і славы гэтаго „свайго„, т. е. у праудзівум вызшум патрыатызме. Як у свядомаго, так і нясвядомаго чалавека усе гэта выцякая ня залежна ад волі іх і разумаваньня, з самаго факту быту.

З Вылажанаго можна зрабіць той вывад, што нацыянальнасць—гэта натура быту народау, зусім незалежная ад іх волі і разумаваньня.

Нацыя, маючая пад сабою нязменны грунт, а каторум гаварылася выжэй, пакуль гэты грут ня змяніуся, ня можа перэрабіцца у другую хоць то сама, чы хоць то каб хто над гэтым працавау чужы,—змяніць свой воблік, чы вымерці

Грунт гэты цесна звязаны з жыцьцем і ростам нацыянальнаго „я" народу: змяніся ен у тым чы іншым кірунку, у гэтым кірунку змяніцца і гэта „я". Часамі калі зменнасці грунту нацыі загражаецца ня з естэства прыроды, а з выпадковых уплывау, як то загарненьня у няволю адной нацыяй другой, то гэта нараджая барацьбу за захаваньня першаасноу яго.

Такім парадкам, як атдзельная асоба, так і цэлы народ будзь то свядома чы ня свядома жывуць тым нацыянальным жыцьцем, якоя чарпаецца з атачаючай іх прыроды з адной стараны і з тых асноу фізычнай сваей арганізацыі, каторыя паложаны у начала іх племяні—з другой. Ды іначай і быць ня можэ: як кожная часціна прыроды мае сваe уласные законы быту, так сама мае гэтыя законы і чалавек. Найглаунейшым з гэтых законау і ест закон нацыянальнаго жыцьця. Нацыянальная жыцьце, гэта жыцьце маючая для роста духа чалавечаго праудзівую дарогу естэства, каторая адна толькі можа давясці яго да шыту найвызшаго развіцьця, даць яму для гэтаго развіцьця здаровую патрэбную страву. Па за гэтай дарогай развіцьця чалавечы дух, як і усе ня у нармальнасці, вырасце калекам. Падводзячы вывад вылажанаму, паставім пытаньня: якая карысць жыць чалавеку нацыянальным жыцьцем свядома, з перэкананьня і жыць будучы нясвядомым свайго нацыянальнаго „я". У першым—гэта шадатворчасць прыносячая багаты урадкай свету і культуры на роднуй ніве, бароначая першаасновы свайго індывідуальнаго „я" ад шкодных уплывау, у друкомзамкнутая скрынка, ключ ад каторай страчаны, поуная багацьця, ад каторай німа нікому карысці; жыцьце нахільная да шкодных уплывау,—да умаленьня і поунаго зьнічтажэньня сваіх духоуных багацьцяу.

Патрэбнасць нацыянальна—свядомаго жыцьця ня толькі ест патрэбнасцю выцякаючаю з факту самога быту чалавечаго, т. е. патрэбнасцю выцякаючаю з законау прыроды, аля каб гэты быт быу дастойны свайго чалавечаго імяні, мусіць быць і патрэбнасцю выцякаючаю з здароваго легічнаго разумаваньня,—бо толькі народ свядомы сваей душы, свайго нацыянальнаго „я", свайго народнаго імяні становіцца раунапрауным сябруком у сям'і народау свету. Народ жэ ня свядомы сябе, ня дбаючы аб павышэньні свайго

духоунаго „я“, такі народ у большых разах ідзе на поваду у другіх народау як нявольнік і часта становіцца крывавай арэнай змаганьняу другіх народау за яго нацыянальную вопратку-яго землю, за яго працу. Гэткі народ, будучы слугою другіх, ня толькі нічога ня дае у усесветную скарбніцу культуры, аля нават дбаючы сваім потам і крывей для славы сваіх уладароу з адной стараны, у той жэ час працуя над сваім знічтажэньням нацыянальным, чы скарэй духоуным-з другой. Свядомасць свайго краю, усяго свайго роднаго, свядомасць поступу свайго нацыянальнаго „я“, гэта найважнейшая патрэба усяго народу, гэта той штодзенны яго духоуны хлеб, без катораго ен, як народ, дастойна жыць ня можэ. Такая свядомасць вядзе к свету і дабрабыту народу ня у крыуду для другіх народау. Усе вялікія людзі, усіх народау і усіх часоу, у сваім жыцьці кіраваліся адной нязменнай засадай нацыянальнай свядомасці—гэта праца над ростам паступовым нацыянальнай душы свайго народу, абвеянная каханьням да усяго роднаго.

## VIII.

Далей разгледзмо як цесна звязана патрэбнасць нацыянальнаго жыцьця з патрэбнасцю палітычнаго самаадзначэньня.

Як мы бачылі, для нармальна-паступоваго развіцьця свайго духа, чалавек канечне мусіц жыць нацыянальным жыцьцем. Штоб уясніць як няадлучна ідзе нацыянальная жыцьце з жыцьцем палітычным, звярнемо увагу на кардынальнейшыя стараны гэтаго жыцьця.

У перш асвета: праудзівая асвета, вядучая чалавека да вызшых ідэалау, каб яна была карыснай для яго, мусіць быць праводжана у роднуй мові, быць зусім ад нікога нязалежнай і вольнай і мець варункі эканамічнаго істнаваньня. Як першая, так другое і трэйцяе усецэла залежыць ад таго парадку самауладарства, які устаноуляны у данаго народу. Калі народ свядомы сябе і ад нікога нязалежны, то і яго асвета ня будзе слугою пануючых над народам, памагаючаю як способ, закабаленьню народа, а будзя ясным шляхам да прауды і хараства.

Далей: паступовы рост народу у сторону культуры і цывілізацыі у дзвяці дзесятых сябе залежыць ад эканамічнаго багацьця і сацыяльных парадкау

данаго народу. І камуж ня вядома, што як эканамічныя багацьця, так і карыстныя для народу сацыальныя парадкі даны народ, як нацыя, зможа здабываць і устауляць толькі тады, калі ен уладарствуя сам сабою, будучы сьвядомым сябе, ня залежна ад другіх народау. Пад якою культурнаю апекаю народ-бы ня быу, аля калі гэта апека будзе чужою, то яна ніколі ня дасць яму карысці і у канцы канцоу прывядзе яго да поунаго упадку.

Прыведзяных двух прымерау досць, каб ясна бачыць, што нацыянальная жыцьце цесна злучана з жыцьцем палітычным у яго самастыйнай і нязалежнай форме.

Кінуты дэмакратыей у час гэтай крывавай вайны лозунг самаадзначэньня кожнаго народу, больш як калі патрэбян цяпер для правядзення яго у жыцьце. Гісторыя добра научыла народы, што большая частка войн вядзецца і вялася за насільная прылучэньня пад свае уладарства адным народам другога —з адной стараны і што народ, насільна прылучыушы пад свае уладарства слабшы народ гэтым самым капая сабе магілу, бо уселякі народ можа развівацца у кірунку к добрабыту толькі тады, калі ен зложаны з аднародных гарманыйных элемэнтау, а уселякая спрэчнасць рана ці позна давядзе яго да поунаго развалу, чаго гісторыя ня раз вучыла і што мы цяпер бачымо з Расеяй. Ды і насільная прылучэньня адным народам другога ня апраудвая сваей важнейшай мэты—эканамічнаго збагачэньня, бо да сюль мы бачылі, што народ, насільна прылучыушы пад свае уладарства другі народ, вялікую частку сваіх сіл траціць на тоя, каб утрымаць сілай загорнутыя пад сваю уласць народы у пакоры, каторыя ніколі ня перэстаюць рвацца к волі, к самаадзначэньню.

Самаадзначэньня кожнаго народу ня толькі карыстна для яго аднаго, бо вядзе яго па праудзівуй дарозе цывілізацыі, культуры і дабрабыту усяго чалавецтва, аля такжэ карыстна і для усіх народау, бо сваім жыцьцем—ня чынячы ніякіх прашкод на дарозе росту чалавечаго духа, здабыцьця эканамічных багацьцяу і паляпшэньня сацыяльных варункау жыцьця—прыбліжая у сваей частца усе чалавецтва да вялікіх ідэалау волі, брацтва, каханьня.

## IX

Для нас, беларусау, патрэбнасць нацыянальнаго жыцьця і самаадзначэньня народу— гэта патрэбнасць усяго нашаго быту.

Ня адзін народ ня стаіць на таком страшном бяздарожі і нацыанальна-духоунаго жыцьця і палітычнаго бязправя як мы беларусы. Сотні год наш увесь бяздольны народ бяз свету, бяз свайго чалавечаго імяні бродзіць у цемры нацыанальнай нясвядомасці, а дзеля гэтаго служыць толькі афярай здзеку і пагарды.

Ня будучы свядомым свайго нацыанальнаго імяні, ня карыстаючы з сваіх творчых дароу натуры у святле уласнай сваей душы, ен ня можа выйці на дарогу праудзіваго поступу да культуры, ня можа іці у поруч з другімі нацыямі да агулова чалавечых ідэалау, а стаіць адзінокі, сіратлівы, адгарожаны кітайскаю сцяною ад цывілізацыі, ня магучы даць тых вялікіх скарбоу духа, якія носіць у сабе.

Праз чужую мову, культуру, праз чужую народнасць ня адзін народ ня можэ прыці да агулова чалавечых ідэалау раунапрауным сябрам; калі ен страціць сваю мову, народнасць, сваю нацыанальную душу і пойдзе па дарозе культуры, то памінаючы тоя, што у даным разе ен будзе толькі простым слугою таго, пад чыім імянем ен будзе іці,— ен прыдзе ня к культуры а к сваей нацыанальнуй смерці, якая выльецца у цяжкі вяковы летаргічны сон.

Асвета і культура у нашай мове, у духу нашай нацыі і нашай народнасці для нас цяпер патрэбны як ніколі. Яны дадуць нам можнасць падняцца з той вяковай пропасці, у каторуй знаходзіцца наш народ да сюль; яны з беларуса-пакорнаго слугі усіх, зробяц раунапраунаго грамадзяніна, бяз памылак магучаго каваць свае щасця, сваю долю; яны уваскрэсяць яго да творчай гасударственнай працы пад уласным нацыанальным сцягам; яны заставяць другія народы паважаць імя беларуса, а ня глядзец на яго як на нешта мертвая, часамі з усмешкай...

Дзесяцімільенны беларускі народ працаунічы, што снуець сваю долю па убогіх весках і мястечках, доугія годы чакая свету праудзіваго у цемры сваей нясвядомасці, стогне і мучыцца пад навалам яе аддаючы свой розум, чуцьце у карысць чужынцам, і, цяпер, у час нябывалай ломкі і крызысу паньствау і народау, ен пачці стаіць забыты на разстаі бяздарож'я, гадаючы якія новыя ланцугі прынясе яму заутрашні

дзень. Цяпер як ніколі павінны прыйці да яго лепшыя сыны, каторых ен ускарміу, узрасціу і дау можнасць у свеце разпазнаваць характво і цемру, прауду і крыуду,—павінны прыці правадырамі і павясці свой народ да нацыанальнаго самаадзначэньня.

Найцяжэйшы час перажывая цяперь беларускі народ. Крывавымі слязмі ен піша цяпер сваю гісторыю, стаючы над зруйнованай сваей бацькаущынай....

Толькі цяпер, у час смерці і васкрашэньня, каб наш народ ізноу ня астауся на доугія гады нявольнікам і афярой здзеку. мы павінны разбудзіць яго со сну нясвядомасці да разумнаго нацыанальнаго быту, будовы сваей бацькаущыны на падставе нашай народнасці і жадань народа. Пакуль нащ народ ня будзе разбуджаным са сну нацыанальнай нясвядомасці, пакуль ен ня станя зусім свядомым свайго „я“, свайго уласного імяні, пашаны сваей чалавечай гордасці, пакуль яго розум і дух ня стануць на моцнуй нацыанальнуй падставе, ня дасягнуць мэты развіцьця, і, пакуль будзе усе ящэ пагарджаным слугою другіх, мы, святлейшыя яго дзеці, павінны працаваць і працаваць ня пакладаючы рук, бо калі будуць ізноу надзеты на народ кандалы нясвядомасці і нацыанальнай смерці, то віною гэтаму будзем мы і праклены гісторыі падуць на нас.

Да працы нас павінна заахвочваць і гнаць разумаваньня наша, што щасця нашаго народу—гэта щасця усіх нас. а праудзівая щасця ест толькі там, гдзе ест свет, культура, воля. Усеж гэта можна толькі здабыць на ніве грамадзянства свядомаго сябе, свайго нацыанальнаго імяні.

Пры усем гэтым мы павінны памятаць, што разбудзіць народ да нацыанальнай свядомасці, гэта ня значыць стварыць нейкую ідэю уваскрашэньня уміраючай нацыі і даць яе народу як нешта новая, гэта—асвяціць толькі святлом нашаго знаньня дарогу блудзячаму у цемры гістарычнаго бяздарож'я народу беларускаго, падзеліцца з ім, у імя справедлівасці, сваім знаньнем; натуралізаваць скрытыя у глыбі народа жаданьня у канкрэтныя формы, да каторых ен рана ці позна мусіць прыйці сам.

Збудзіць беларускі народ, гэта значыць праявіць яго нацыянальную душу, яго нацыянальная „я“ да творчаго свядомаго самабыту на карысць вялікім ідэалам чалавецтва, даць ім можнасць карыстаць з скрытых багацьцяу беларускай натуры.

Збудзіць беларуса да культурна-нацыянальнаго жыцьця, гэта значыць пачаць для яго новую эру гісторыі, эру ня сну, здзеку, пагарды, адарванасці ад усяго светлаго, а-вялікаго грамадзянскаго быту, мэтай каторага павінны быць шчырая злучнасць усіх народау, абвенчанная праудзіва чалавечым каханьням.

Мы павінны помніць, што жывы народ, маючы пад сабою нязменнымі асновы свайго нацыянальнаго быту, ня памрэ, а рана ці позна адродзіцца і сам аднайдзе свае імя.

Ня памрэ і беларускі народ.

Сотні год ен знаходзіуся у паусне нясвядомасці, а усеж ен жывая нацыя, маючая свой уласны быт.

Рана ці позна наш народ прабудзіцца з нацыянальнаго сну, аля які страшны суд зробіць над намі гісторыя, якім ашчерным імяням яна нас заклейміць, калі мы ня прыложым цяпер працы да прабуджэньня нашаго народу, да вываду яго з цемры нясвядомасці к свету,—з агорпутай яго нядолі. Аб усім гэтым нам сведчаць гісторыі нацыянальнаго прабуджэньня другіх народау.

Просты змысл нашаго розуму, простая рахуба здаровых разумаваньняу кажуць нам, каб мы, усе тыя хто свядом свайг „я“, хто жыве ня толькі для сябе, аля і для краю, для каго „народ“ „бацькаушына“ ня пустыя словы, а зык ідучы з уласнаго быту,—каб усе гэтыя ня былі бязвалоднымі сведкамі у гэты крывавы час разру і і нядолі, сведкамі гора свайго народу; ня глядзелі моуча як сочыцца кроу з ран бацькаущыны, а былі шырымі работнікамі на роднуй ніве, праудзівымі дзецьмі свайго бацька народу, гатовымі прынясці яму у афяру і розум, і душу, і нават, у патрэбе, жыцьце.

Працаваць над прабуджэньням свайго народу працаваць над адбудовай вольнай бацькаущыны Беларусі, працаваць у карысць каб яна ня была пагардай другіх, а мы ня нявольнікамі сваей цемры, а роунымі сябрамі другім народам вялікімі сваімі светам і культурай-якая гэта вялікая доля для мас!..

Як мы павіны быць горды тым што гісторыя на нас ускладая гэту вялікую і святую працу.

